№18 (181)

# ПАХОДНЯ

*Грамадска-палітычная газета*

Лістапад 2014 г.

## КАЛОНКА НАВІН

### У краіне

**Инфляция за январь-октябрь достигла 14,8%.**

С начала года потребительские цены в Беларуси выросли на 14,8%. В октябре, по информации БелаПАН, инфляция составила 1,2%.

Наибольшее влияние на октябрьскую инфляцию оказали цены на продовольственные товары и услуги. Так, продукты питания подорожали на 1,2% (с начала года — на 16,3%), платные услуги для населения — на 2,5% (на 22,6%). Тарифы на жилищно-коммунальные услуги в октябре выросли на 7,2% (с начала года — на 30,1%).

Изначально правительство прогнозировало снижение инфляции в 2014 году до 11% (с 16,5% — в 2013).

### У Прыдняпроўі

**Более ста организаций Могилевской области признаны убыточными за 9 месяцев текущего года.**

Как сообщили в отделе статистики финансов Главного статуправления Могилевской области, за 9 месяцев текущего года убыточными признаны 103 организации Могилевской области, или 11,7% от общего количества организаций, учитываемых в текущем порядке. По сравнению с аналогичным периодом прошлого года таких предприятий стало на 35 больше. Сумма чистого убытка убыточных организаций за январь-сентябрь 2014 года составила 1 239,1 млрд. рублей, или в 1,7 раза больше, чем за январь-сентябрь 2013 года.

### У раёне

**У верасні ў бялынічан зменшыліся заробкі.**

Сярэдняя заработная палата па нарадной гаспадарцы Бялыніцкага раёна ў верасні 2014 года склалася на ўзроўні 5 361,7 тыс. рублёў.

Нагадаем, што ў жніўні 2014 года па дадзеных статыстыкаў сярэдняя налічаная заработная плата працаўнікоў Бялыніцкага раёна складала 5 700 944 рублёў.

# НУ І ХТО Ў НАС “ЧЭСНЫ”?

***Колькі разоў нашыя слаўныя чыноўнікі і доблесныя “байцы нябачнага фронту” казалі дрэнныя словы пра незалежную прэсу Магілёўскай вобласці і пра газету “Паходня”, у прыватнасці, пра тое, што “злосныя найміты праклятых буржуінаў” спрэч займаюцца “очернітельством” і нябачаць відавочных поспехаў і дасягненяў, а аказалася, што гэтыя газеты якраз праўду і пішуць.***




Прычым высветлілася гэта, зноў жа, не пасля словаў якога-небудзь “ворага-БНФаўца” тыпу майго сябра Рыгора Кастусёва, а пасля той ацэнкі працы чыноўнікаў Магілёўскай вобласці, якую даў наш нязменны і вельмі любімы гэтымі самымі чыноўнікамі кіраўнік краіны.

А сказаў ён пры наведванні Магілёўскай вобласці 5-га лістапада менавіта тое, пра што неаднаразова пісала тая ж “Паходня” і пра што ададаюць перавагу маўчаць дзяржаўныя газеты нашай вобласці (цытую на мове арыгінала):

“Стиль работы, вы сами это подтвердили, - никчемный”, - сказал Александр Лукашенко, обращаясь к губернатору Могилевской области Петру Руднику.

“Мы в будущем году будем сдавать людям экзамен. А у вас люди зарплату не получают, а если и получают - мизерную, у вас порядка нет, все застыло в прошлом веке, нет движения, и я это говорю не потому, что придираюсь к вам. Могилев - худший город в стране из областных центров”, - отметил Президент”.

Можна нічога і не дадаваць, здаецца. Праўда, хацелася б задаць Рыгоравічу пытанне, куды ж глядзеў на ўвесь гэты “завал” ён сам і яго наглядчык за вобласцю Генадзь Лаўранкоў, які, дарэчы, і заваліў на Магілёўшчыне ўсю працу з кадрамі, пра што таксама неаднаразова пісала “Паходня”. Калі не ведаюць самі, што зараз рабіць для выпраўлення сітуацыі, прапанавалі б сваму даўняму знаёмаму па Шклову Рыгору Кастусёву пасаду старшыні аблвыканкама. Думаю, ён бы разабраўся.

Таксама азнаёмлю чытачоў “Паходні” з яшчэ адной навіной, якая з’явілася на шэрагу дзяржаўных інтэрнэт-сайтаў і вельмі хутка знікла.

*(Заканчэнне на стар. 2)*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

## НУ І ХТО Ў НАС "ЧЭСНЫ"?

(Заканч. Пачатак на стар. 1)

Інфармацыйнае агенства "Магілёўскія ведамасці" 3 лістапада у матэрыяле "В Могилевской области выявили новые случаи АЧС" паведаміла:

"Заседание штаба по предупреждению и распространению африканской чумы свиней прошло в Чаусском районе. Это связано с новыми случаями заболевания АЧС, выявленными в Круглом, Славгородском, Могилевском, Быховском, Чериковском и Чаусском районах.

"С начала уборки зерновых трупы диких свиней обнаружены практически во всех районах области. В этой связи необходимо принять исчерпывающие меры по недопущению новых случаев возникновения очагов АЧС", - отметил первый зампред Чаусского райисполкома, начальник управления сельского хозяйства и продовольствия Сергей Бичуков".

Аднак, як усім вядома, "АЧС у Магілёўскай вобласці няма", таму навіну хуценька прыбралі. Мне, праўда, не зусім зразумела, ад каго нашыя слаўныя чыноўнікі яе хаваюць – ужо браты-расіяне знайшлі геном АЧС у прадукцыі амаль усіх мясаперапрацоўчых прадпрыемстваў Магілёўскай вобласці, ужо практычна"пасцялілі" увесь агракомплекс "Светлы" Чэрыкаўскага раёна і палову "Усходу", а нас усё працягваюць лічыць за дурняў.

Нагадаю, што чытачам "Паходні" пра выпадкі АЧС на Магілёўшчыне мы паведамілі яшчэ некалькі месяцаў таму, чэсныя ж газеты па-ранейшаму працягваюць сцвярджаць, што ў нас гэтай трасцы і блізка няма. Зразумела ж, праўду пішуць …

**Іван Барысаў**




## У БЯЛЫНІЦКІМ РАЁНЕ ЗНОЎ ПРЫМУШАЮЦЬ ЗДАВАЦЬ ДРУГАСНУЮ СЫРАВІНУ

***У Бялыніцкім раёне працаўнікоў арганізацый, прадпрыемстваў і ўстаноў раёна зноў у загадным парадку прымушаюць здаваць другасную сыравіну. Распараджэннем Бялыніцкага райвыканкама калектывам арганізацый, прадпрыемстваў і гаспадарак раёна даведзены гадавыя заданні па нарыхтоўцы другаснай сыравіны і зараз райвыканкам патрабуе іх безумоўнага выканання да канца бягучага года.***

У сувязі з гэтым супрацоўнікам арганізацый раёна даведзены заданні, колькі бытавых адыходаў павінен здаць кожны з іх у бліжэйшы час, за невыкананне заданняў кіраўніцтва арганізацый пагражае працаўнікам пазбаўленнем прэмій. Людзі абураюцца даведзенымі заданнямі, тым больш што многія з іх ужо раней выканалі адпаведныя ранейшыя загады па збору адыходаў.

Сітуацыя часам складваецца анекдатычная. Я сам быў сведкам таго, як супрацоўнік МНС хадзіў па хатах сваіх знаёмых і прасіў даць шкляныя і пластыкавыя бутэлькі, бо яму давялі заданне, якое ён павінен абавязкова выканаць. Супрацоўнікам школ і дзіцячых садкоў дык гэтыя заданні даводзілі ўжо па некалькі разоў. Літаральна пару дзён таму на ўласныя вочы бачыў паперку, дзе супрацоўнікам аднаго з дзіцячых садкоў раёна загадваецца здаць кожнаму па 15 кг макулатуры, 5 кг поліэтыленавых бутэлек, 56 кг шклобою і 3 кг рыззя. Работнікі адукацыйных устаноў таксама просяць бацькоў вучняў і выхаванцаў дзіцячых садкоў, каб тыя прыносілі разнастайныя адыходы. Самі яны ў прыватных гутарках абураюцца тым фактам, што іх у прымусовым парадку зрабілі зборшчыкамі смецця, аднак далей размоў справа не ідзе, баяцца, што за невыкананне чарговых заданняў іх пазбавяць прэміяльных, тым больш што такія выпадкі ўжо мелі месца ў нашым раёне.

Як паведамляе раённая газета "Зара над Друццю", на 30 кастрычніка гадавы план прадпрыемствамі, арганізацыямі і гаспадаркамі раёна па нарыхтоўцы макулатуры выкананы на 39,7%, шкла – 59,7%, палімерных вырабаў – 48,9%, тэкстыльных адыходаў – 95,9%. Так што яшчэ шмат працы ў якасці збошчыкаў смецця мае быць зроблена працаўнікамі арганізацый Бялыніцкага раёна да канца 2014 года…

**Сяргей Семяновіч**

## В БЕЛЫНИЧАХ МУЖЧИНА ПОЛУЧИЛ 6 ЛЕТ ЗА ПОПЫТКУ УБИЙСТВА ЛЮБОВНИКА СВОЕЙ ЖЕНЫ

***Приговором суда Белыничского района осужден 37-летний житель городского поселка Белыничи за покушение на убийство, сообщила БелаПАН старший помощник прокурора Могилевской области Алла Кузнецова.***

Женщина, мать четверых несовершеннолетних детей, в течение последних пяти лет поддерживала близкие отношения с 24-летним жителем Белыничей, 11 раз судимым за совершение краж, разбоев, грабежей. Она неоднократно уходила из дома к нему, и приятель также приходил к ней домой в отсутствие супруга.

В один из дней января 2014 года супруга обвиняемого в своей квартире выпивала с любовником и его матерью. Затем все трое вышли на улицу, где встретили мужа, возвращавшегося с работы. Услышав от детей, что супруга не собирается возвращаться домой, мужчина схватил нож и выбежал на улицу. Догнав соперника, нанес ему ножом два удара в область груди и живота, от чего потерпевший упал на землю. Посчитав, что соперник скончался, обвиняемый покинул место происшествия.

Пострадавший был доставлен в больницу, где ему была оказана своевременная медицинская помощь.

Приговором суда нападавший мужчина признан виновным в покушении на умышленное противоправное лишение жизни другого человека. В качестве меры наказания ему назначено лишение свободы сроком на 6 лет с отбыванием в исправительной колонии в условиях усиленного режима. В счет возмещения морального вреда потерпевшему с него постановлено взыскать 10 миллионов рублей.

**naviny.by**

# ПРО ТУНЕЯДЦЕВ И ДАРМОЕДОВ

***Жить стало лучше, жить стало веселее. Наконец-то в Республике Беларусь появилась идея, которая объединит народ: дружно будем бороться с гражданами, не отягощёнными общественным трудом. Создадим новую структуру ОБсТЭ – Отдел Борьбы с Тунеядствующими Элементами (сотрудники новой структуры будут исключительно дети, внуки и любовницы занятых полезным трудом (а как же!!) чиновников от власти). И всей силой общественного возмущения ударим по разгильдяйству и тунеядству!***

В отделах должно быть не менее 10 человек, которые структурно и в поте лица будут трудиться, отлавливая и привлекая к полезному труду, такому, как уборка улиц, (а другой работы и нет) граждан, которые хронически не желают трудиться на благо нашей страны и паразитируют на здоровом теле чиновничества и редкого сейчас пролетариата. Осознавая всю важность хранимых в отделе документов, заранее отсекая всякие поползновения и преступные замыслы оппозиции и деструктивных личностей, возьмём под военизированную охрану, укрепляя её пенсионерами из органов МВД, которые зарекомендовали себя стойкими борцами с преступностью и коррупцией, данные отделы, размещённые во вновь отстроенных (а как же!) кабинетах районных и областных администраций. Пусть трепещут Маньки и Ваньки, не желающие трудиться на благо нашей демократичной и великой Родины!!

Впервые в жизни я потираю руки от предвкушения великих дел и злорадствую, что меня не коснётся грандиозный почин, который придумали уникальнейшие чиновники нашей верховной власти. Сейчас я – пенсионерка, хоть и являюсь членом оппозиции более 12 лет, и поэтому ранее на своей шкуре сполна испытала всю прелесть безработицы, когда не брали на работу никуда, даже дворником. Да и сейчас отказали в праве на труд в этой благородной должности. Буквально пару недель тому назад. Как хорошо, что я – пенсионерка!! Хотя и старость – не радость…

Но меня сейчас интересует другое: где будут работать привлечённые к труду тунеядцы? В нашем районе не осталось производств (ликвидированы чиновниками), которые бы оправдывали затраты на этот принудительный труд. Если в отделе ЖКХ, то, значит, нововведение коснётся всё-таки и меня, ведь оплачивать данных дворников и уборщиц будем мы




через повышение оплаты коммунальных услуг. Вопрос о том, кто будет оплачивать работу отделов, созданных для воплощения в жизнь данного нововведения, не стоит, так как на это в нашем государстве деньги есть. И кто бы в этом сомневался! Чиновничья гидра, плотно усевшаяся на шее трудового народа, способна выжать из него соки в виде денежных средств, что мы наблюдали, и не один раз.

В достопамятные времена, сразу после распада Советского Союза, четырёхэтажное здание районного Дома Советов в г. п. Круглое Могилёвской области (думаю, что и в других городах) наполовину пустовало. Но, шло время, подрастали дети и внуки чиновников, им нужна была непыльная высокооплачиваемая работа, и потихоньку сначала стали заполняться кабинеты, потом уплотняться столами и стульями, потом началось заселение других зданий и организаций и, наконец-то, районная администрация приобрела тот вид, который она имеет на сегодня. И наступил момент, когда расширяться стало некуда, сокращение чиновничьего аппарата превратилось в фарс, который ознаменовался пересадкой из кресла в кресло, из одного здания – в другое. Всё! Казалось, приехали! Расширяться некуда…. И вдруг такое счастье!!!! Борьба с тунеядством!! Ура!!! Ура, товарищи! Есть возможность пополнить ряды дармоедов, паразитирующих на теле нашего общества.

Хочется надеяться, что это шумиха закончиться очередным «пшиком», потому что ничего, кроме говорильни из этой идеи вынести нельзя. Конечно, пострадают те, которые в условиях дефицита рабочих мест в маленьких городах, вынуждены будут, не смотря на получение высшего образования, пойти мести улицы. Ну, а те, которые хронически больны алкоголизмом и выживают за счёт помоек, подбирая всё, что можно сдать, - бутылки, металл, пластик, - пополнят ряды зэков, а значит тоже сядут на нашу шею, так как ни одно это учреждение не оправдывает себя экономически и паразитирует за наш же счёт. Говорят, что Беларусь занимает одно из ведущих мест в мире по количеству зэков на душу населения. Хоть тут-то отличились. Отличились, правда, ещё и тем, что их у нас регулярно отстреливают, как нигде в мире.

*(Окончание на стр. 4)*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ПРО ТУНЕЯДЦЕВ И ДАРМОЕДОВ

*(Оконч. Начало на стр. 3)*

Но меня интересует ещё всё-таки один вопрос? Из каких средств будут оплачиваться те, которые будут привлекать тунеядцев к полезному труду, и будут ли окупаться эти затраты? И сейчас можно каждую пятницу наблюдать, как тысячи чиновников и всяческих работников всевозможных бюджетных организаций самозабвенно метут улицы нашего посёлка. И невольно напрашивается вопрос: а зачем нам столько высокооплачиваемых дворников? И сучкорубов, потому что их ещё и привлекают на уборку зарастающих полей и умерших деревень? Не проще ли было бы сократить часть госаппарата? Ведь у нас данной категории работников гораздо больше, чем производственников, которые действительно пополняют бюджет. Тем более, что все эти дармоеды никогда не будут активными гражданами своей страны. Никогда они не станут рубить сук, на котором сидят. Не потому ли так удобно придумывать «новых врагов» провалившегося режима? Не потому ли начинается «охота на ведьм», что не хватает денег уже и на оплату госструктур? И не смотря на то, что приближаются очередные выборы, и что большинство электората за этот режим составляют самые обездоленные члены нашего общества, на которые сейчас нацелились чиновники от власти, нам хотят навязать эту «мышиную возню» в поиске виноватых в провале политики государства. Это говорит лишь о том, что с цифрой при голосовании уже определились. И поддержка верного электората уже не нужна. Возможно, хотят также избавиться от тех, кто составляет активную часть общества, но не может из-за гонений найти применение своим знаниям и своему потенциалу в своей стране. Уедут лучшие. Уедут умные и сильные. Но ведь невозможно выжить там, где останутся только тунеядцы и дармоеды.

Вспомнился, кстати, советский мультик про лося: пока лось бежал по лесу, к нему на рога залезли тьма лесных жителей, которые обосновались там, как казалось им, надолго. Когда лосю стало невмоготу – он сбросил рога.



Колхозница и тунеядец

Я думаю, что дела наши совсем плохи, если уже взялись за тунеядцев, которые есть в каждом обществе и государстве. Но ведь если люди всё-таки выживают как-то при отсутствии работы, может не стоит их трогать, пусть живут себе? Ведь они и от общества ничего не требуют. Ведь для нас куда страшнее дармоеды, которых приходится кормить и которых намного больше. Их столько, что иногда думаешь, а не пора ли и нам сбросить рога???

***Зинаида Милещенко***

# ПЕРШЫ НАМЕСНІК СТАРШЫНІ АБЛВЫКАНКАМА ЛІЧЫЦЬ, ШТО Ў ШКЛОЎСКІМ РАЁНЕ ЎСЁ ВЕЛЬМІ ДОБРА

***Намеснік старшыні Партыі БНФ, кіраўнік грамадзянскай ініцыятывы “Шклоўскі магістрат” Рыгор Кастусёў 13 лістапада атрымаў адказ з Магілёўскага аблвыканкама на свой зварот з адкрытым лістом да кіраўніка краіны Аляксандра Лукашэнкі.***

У адказе за подпісам першага намесніка старшыні Магілёўскага аблвыканкама, начальніка камітэта па сельскай гаспадарцы і харчаванню Алега Чыкіды, у прыватнасці, паведамляецца, што ўсе пастаўленыя пытанні і прыведзеныя факты ў звароце разгледжаны адпаведнымі службамі аблвыканкама, парушэнняў не ўстаноўлена. У Шклоўскім раёне “усе падзеі адбываюцца ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, у тым ліку падбор і назначэнне кадраў”.

Алег Чыкіда піша, што “аблвыканкамам і райвыканкамам праводзяцца неабходныя мерапрыемствы па забеспячэнню належнага ўзроўню ацыяльна-эканамічнага жыцця насельніцтва раёна і падтрыманню стабільнасці ў эканоміцы рэгіёна. У сферы занятасці нассельніцтва раёна адзначаецца стабільная сітуацыя. Прамысловыя, сельскагаспадарчыя прадпрыемствы і аб’екты сацыяльнай сферы працуюць у адпаведным рэжыме. Памеры замежных інвестыцый знаходзяцца на здавальняючым узроўні. У развіцці дэмаграфічнай сітуацыі адзначаюцца станоўчыя тэндэнцыі”.

Таксама першы намеснік старшыні аблвыканкама ўказаў Рыгору Кастусёву, што ў яго звароце некарэктна ўказана форма калектыўнага волевыяўлення грамадзян, як грамадзянская ініцыятыва “Шклоўскі магістрат”, бо дакументы аб стварэнні мясцовага грамадскага аб’яднання (ініцыятывы) з назвай “Шклоўскі Магістрат” не зарэгістраваныя.

Выклікае здзіўленне, што чыноўнікі з Магілёўскага аблвыканкама не ведаюць пра тое, што грамадзянскія і грамадскія ініцыятывы не з’яўляюцца арганізацыямі і ім непатрабуецца рэгістрацыя…

Сам Рыгор Кастусёў лічыць, што першы намеснік старшыні Магілёўскага аблвыканкама не даў ні аднаго канкрэтнага адказу на пастаўленыя ў звароце да Аляксандра Лукашэнкі пытанні.

“Адказ першага намесніка старшыні аблвыканкама нагадвае мне песню вядомага спевака Уцёсава “ А в остальном прекрасная маркіза, всё хорошо, всё хорошо”... У такіх выпадках, пры такіх адказах, пачынаеш разумець, чаму следства па знікненню ў Шклоўскім раене 4,2 мільёнаў еўра, выдзеленых з бюджэту на закупку

*(Заканчэнне на стар. 8)*

# ЗМАНАННЕ З КАРУПЦЫЯЙ НА ДЗЯРЖАЎНЫМ УЗРОЎНІ

***По сведчаннях шматлікіх міжнародных і беларускіх экспретаў, імклівы рост карупцыі ў Беларусі распачаўся менавіта пасля жорсткага разгону Плошчы 2010 года. Пасля чарговага "пераабрання" А. Лукашэнкі на пасаду прэзідэнта беларускія чыноўнікі адчулі сваю безпакаранасць і ўседазволенасць.***




Так, паводле дакладу міжнароднай неўрадавай арганізацыі Transparency International, у 2011 годзе карупцыя ў Беларусі расквітнела, і нашая краіна па гэтых паказчыкахтолькі за адзін год скацілася з 127 на 143 месца ў свеце, падзяляючы яго з Азербайджанам, Расіяй, Угандай і Нігерыяй.

Пагоршыўся на 0,1 і індэкс успрыняцця карупцыі, які склаў 2,4, супраць 2,5 у 2010 г.

Разлічваемы індэкс успрыняцця карупцыі вызначае ўзровень карупцыі ў дзяржсектары – ад 0 (самы высокі ўзровень карупцыі) да 10 (карумпаваных чыноўнікаў амаль няма).

Найлепшыя паказчыкі ў свеце па памерах індэкса маюць Новая Зеландыя (9,5), Данія (9,4), Фінляндыя (9,4).Самы высокі ўзровень карупцыі ў Самалі (1,0) і Паўночнай Карэі (1,0).

Па тых мерах у барацьбе з карупцыяй з боку кіраўніцтва нашай краіны і разнастайных сілавых ведамстваў, што агучваюцца ў дзяржаўных СМІ, можа скласціся ўражанне, што ў хуткім часе гэтаму цмоку і сапраўды будзе адкручана галава. Ды і паказчыкі, прыводзімыя для прыкладу, сведчаць, падаецца, аб паляпшэнні сітуацыі ў гэтым плане.

Па сведчаннях прэс-службы Генеральнай пракуратуры РБ, да прыкладу, толькі ў Магілёўскай вобласці за першае паўгоддзе 2014 года зарэгістравана 131 злачынства карупцыйнай скіраванасці (супраць 157 за першае паўгоддзе 2013 г.). З іх 32 (супраць 50) – крадзёж шляхам злоўжывання службовым становішчам, 22 (22) – злоўжыванне ўладай або службовымі паўнамоцтвамі, 7 (3)- перавышэнне ўлады або службовых паўнамоцтваў, 58 (36) атрыманне хабару, 12 (39) – дача хабару.

Карупцыйныя злачынствы зарэгістраваны ў сферах аховы здароўя – 61 (29), прамысловасці – 27 (21), адукацыі – 9 (11), будаўніцтва 9 (9), гандлю – 9 (9), сельскай гаспадарцы – 9 (24), дзяржаўным кіраванні - 6 (4).

Найбольшае зніжэнне ўзроўню карупцыі па сведчаннях Генпракуратуры адбылося ў сельскай гаспадарцы Магілёўшчыны, што і дало, як падаецца, станоўчыя зрухі па агульнаму выніку, пры тым, што ў астатніх сферах перамен да лепшага не адбылося.

Што ж такое здарылася станоўчае, што карупцыя ў сферы сельскай гаспадаркі за першае паўгоддзе 2014 г. знізілася больш чым у 2,5 разы ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага году? Няўжо меры сілавых структураў паспрыялі гэтаму, або чыноўнікі на сяле сталі больш сумленнымі?

Ды ўсё вельмі проста.

Зніжэнне карупцыі ў сельскай гаспадарцы Магілёўшчыны адбылося, як вынікае, па той простай прычыне, што ў 2014 годзе рэзка скараціліся бюджэтныя фінансавыя ўліванні, паступаючыя ў гаспадаркі вобласці. А ў чыноўнікаў зменшыліся магчымасці для папаўнення сваіх асабістых кішэняў.

Нярэдка яшчэ і беларускія сілавікі дзеля атрымання прыгожай карцінкі прыбягаюць да маніпуляцый лічбамі.

Так, 20 чэрвеня 2014 года ў пракуратуры Магілёўскай вобласці (як паведамляецца на сайце www.prokuratura.gov.by) быў праведзены кольны стол па пытанні супрацьдзеяння карупцыі, на тэму "Супрацьдзеянне карупцыі ў сучасным грамадстве". У дадзеным мерапрыемстве прынялі ўдзел намеснік пракурора Магілёўскай вобласці Сільвановіч, начальнік аддзела па барацьбе з карупцыяй і арганізаванай злачыннасцю пракуратуры Магілёўскай вобласці Волкаў, рэктар Магілёўскага дзяржуніверсітэта імя Куляшова Бандарэнка, дэпутат Савета рэспублікі Нацыянальнага сходу РБ Марзалюк (на сайце ўказалі як дэпута ПП НС РБ), прадстаўнікі Магілёўскага аблвыканкама, студэнты і выкладчыкі вышэйназванага універсітэта.

У сваім выступе намеснік пракурора Сільвановіч адзначыў, што за прайшоўшы перыяд 2014 года на тэрыторыі вобласці выяўлена 350 эканамічных злачынстваў, 101 – карупцыянай скіраванасці. З іх у сферы аховы здароўя – 41, прамысловасці – 17, у гандлі і адукацыі толькі па 1. Дадзеныя, прыведзеныя намеснікам пракурора вобласці на кольным стале, яўна разыходзяцца з вышэйпрыведзенымі лічбамі.

Удзельнікі стала адзначылі паспяховасць працы сілавога ведаства ў барацьбе з карупцыяй, і паніжэнне яе ўзроўню ў параўнанні з мінулымі гадамі.

Праз маніпуляцыю лічбамі беларускае кіраўніцтва імкнецца дасягнуць больш высокага месца для Беларусі ў сусветных рэйтынгах карумпаванасці. Дзеля такога поспеху беларускія ўлады пайшлі нават на змены Крымінальнага кодэкса. І з пераліку карупцыйных злачынстваў у 2011 годзе былі выключаны чатыры

*(Заканчэнне на стар. 8)*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# НА ДАХУ СВЕТУ

***Я ўсяго толькі запісаў мясцовае вымаўленне гэтай назвы – менавіта так, праз мяккае "с" — "Сьвінтар". Няхай выбачаюць мяне мовазнаўцы, таксама я не буду спрачацца ні з гісторыкамі, ні з этнографамі. Так гаварылі на маёй памяці. Ёсць меркаванне, што назва паходзіць ад польскага адпаведніка слову "могілкі" — cmentarz (якое, у сваю чаргу, мае адсылку да лацінскага coemeterium, а тое паходзіць ад грэчаскіх єї№ј·Д®Б№їЅ – месца адпачынку, єї№јїжј±№ — спаць).***

Але мае асабістыя ўражанні зусім іншыя. Назоўнік "сьвята" і прыметнік "сьвяты" маюць адно і тое ж сэнсавае паходжанне. А яшчэ свет і святло. Сусвет і сусветны. Менавіта з гэтымі словамі звязаны ўражанні, калі трапляеш на самы верх гэтага пагорка. Так бывае – радаснае хваляванне напоўніць цела і душу, калі дакранешся да чагосьці, што сярод людзей асацыюецца з паняццямі вечнасці, памяці продкаў, генетычнай памяці, і нечага яшчэ няўлоўнага, сакральнага, што не паддаецца ні асэнсаванню, ні апісанню. Але ты дакладна ведаеш, што ўсё гэта звязана з папярэднімі пакаленнямі на тваёй роднай зямлі, з іхным ладам жыцця, з прагай да вольнага існавання, традыцыямі і верай.




Калі стаіш на самым краі верхняй часткі гэтага ўнікальнага месца, тварам на захад — прама пад нагамі пачынаецца рэзкі ўхіл. Ён дугой абыходзіць цябе злева і справа. І пачынаеш разумець, што гэта далёка не выпадкова, гэта не проста абрыў. Адсюль адкрываецца неверагодная па маштабах і прыгажосці панарама. Праглядаюцца на шмат кіламетраў усе накірункі. Прама перад вачыма – рака. Яна цячэ з поўначы на поўдзень, і ўтварае натуральны абарончы роў.

Ззаду, на ўсходзе, застаецца вузкі пярэсмык, своеасаблівы "перашыек", за кошт якога сучасная вуліца Кірава ў гэтым месцы рэзка ўзмывае ўверх (з боку вуліц Лорчанкі і Хігрына), стварае своеасаблівы "горб" і тут жа рэзка падае ў бок Сялянскай. Адзінае месца, дзе мог быць "уваход" на гэту тэрыторыю. Ускосна гэта пацвярджае каменны крыж, што стаіць "тварам" на ўсход, а "рукі" якога размешчаны дакладна на поўдзень і поўнач. Яго месцазнаходжанне – амаль што ў цэнтры круга, які ўтварае верхні ўзровень Сьвінтара.

Магчыма, у тым месцы, дзе зараз знаходзіцца "перашыек", першапачаткова быў мост праз роў. Тады атрымліваецца, што абароненае, напрыклад, драўлянымі сценамі, месца гэтае было цяжка дасягальным для непажаданых гасцей з любога боку. Роў з часам маглі засыпаць і пакінуць проста вузкую дарогу для ўезда на тэрыторыю гарадзішча, ці паселішча, якое выконвала абарончыя функцыі.

То бок карціна вымалёўваецца такая: калі тут з'явіліся першыя перасяленцы, яны выбралі месца, максімальна абароненае з усіх бакоў за конт спецыфікі прыроднага ландшафту. Потым, магчыма былі дасыпаныя схілы самога пагорка, пракапаны ці палепшаны роў вакол узвышэння. З цягам часу простыя людзі маглі рассяляцца па наваколлі ўзмоцненай тэрыторыі, а ў выпадку небяспекі збіраліся і ратаваліся за надзейнымі сценамі.

Колькі разоў тут адбываліся баявыя дзеянні, наколькі паспяхова трымалі абарону нашы продкі — не скажа зараз ніхто. Але, мяркуючы па тым, што нідзе ў гэтым раёне не знаходзіцца рэштказ абгарэлых бярвёнаў, ці канструкцый з каменю, падобных на зруйнаваныя, будзем спадзявацца, што нашым землякам шанцавала ў свой час. Хаця, натуральна, што з часоў з'яўлення тут першых пасяленцаў ужо прайшло значна больш за тысячагоддзе і шмат якія сведчанні зніклі незваротна. Але ж нездарма кажуць, хто шукае – той знаходзіць.

Нізіна, якая нагадвае балку натуральнага паходжання, праходзіць ад пачатку вуліцы Савецкай па тэрыторыіі садоў і агародаў паміж вуліцамі Сялянская і Энгельса з усходу на захад, у бок Чырвонаармейскай, на якой і размешчаны зараз Сьвінтар. На тэрыторыі ўзгаданай вуліцы захаваўся старажытны фундамент з вялізных абцясаных камянёў, які выходзіць сваімі бакамі на тры ўчасткі мясцовых жыхароў. Ён знаходзіцца метраў за чатырыста ад Сьвінтара на поўнач, амаль што насупраць старога драўлянага моста праз Друць. Апошнія звесткі сведчаць, што напрыканцы XIX-га – пачатку XX-га стагоддзя там была кузня. Але, мяркуючы па памерах гэтых каменных муроў, раней тут маглі быць і іншыя значныя пабудовы.

Калі стаяць на самім аб'екце нашага апісання – на вяршыні Сьвінтара тварам на ўсход, то балка знаходзіцца па левую руку. Гэта прыроднае ўтварэнне ўзгадваецца невыпадкова, таму што захавалася інфармацыя, з якой вынікае, што калі пры пашырэнні тэрыторый мястэчка цэнтр яго змесціўся ў бок сучасных цэнтральных забудоваў, то тэрыторыя Сьвінтара засталася на "Слабадзе". А што такое "слабада"? Гэта месца пражывання людзей, якія выбралі лад жыцця, як мага меней залежны ад мясцовай улады. Вольныя людзі, якія не плацілі большасці падаткаў.

*(Заканчэнне на стар.7)*

# НА ДАХУ СВЕТУ

(Заканч. Пачатак на стар. 6)

Яны не займаліся сельскагаспадарчай працай, а часцей за ўсё рамёствамі, паляваннем, рыбалоўствам і г.д. Таксама ваенныя згуртаванні, супольнасці ці аб'яднанні пражывалі ў такіх месцах. "Слабада" на большасці славянскіх моваў азначае "свабода".

Задруцкая Слабада з'явілася яшчэ пазней у выніку пашырэння тэрыторый пражывання насельніцтва мястэчка.

Таксама варта ўзгадаць яшчэ два месца, якія можна назваць крыніцамі здабычы прыродных рэсурсаў, якія былі выгодна размешчаны вакол старажытнага паселішча. Першае — так званыя "Пяскі" – дастаткова вялікая плошча ўздоўж берага Друці (у раёне цяперашняга моста па былой трасе Магілёў — Мінск), дзе на паверхні знаходзіцца шмат рачнога пяску. Як вядома, менавіта ён лічыцца ідэальным будаўнічым матэрыялам, мае высокую ступень ачысткі і вылучаецца адсутнасцю непажаданых складнікаў – каменьчыкаў, дамешкаў гліны. Ёсць меркаванне, што менавіта гэты пясок актыўна выкарыстоўваўся пры ўзвядзенні старажытных будынкаў у мястэчку.

Другое месца – "Глінішча". Такая старажытная назва захавалася за вадаёмам, які не перасыхае круглы год і мае сетку падземных плыняў. Ён знаходзіцца недалёка ад Сьвінтара ва ўсходнім накірунку. Мяркуецца, што тут у вялікіх аб'ёмах дабывалася гліна для рамяства і будаўніцтва.

Дарэчы, ёсць каля Сьвінтара і крыніца, дзе з-пад зямлі б'е чыстая ключавая вада і ўтварае ручаёк, што сцякае ў Друць.

Вось такі аповед атрымаўся пра гару са старажытнай назвай Сьвінтар. Зараз на ёй усталяваны сімвалічны камень з надпісам "Тут пачыналіся Бялынічы". Тэрыторыя дагледжана, знізу ўверх вядзе драўляная лесвіца. У свой час вядомы краязнаўца Міхась Карпечанка быў ініцыятарам добраўпарадкавання гэтага месца.

З дадатковых дадзеных: вядома, што мяккае вымаўленне слова "сьвінтар" мае месца і на суседняй Барысаўшчыне, з якой граніцыць Бялыніччына на паўночным захадзе (напрыклад, у вёсцы Барань). Дарэчы, Друць з'яўляецца своеасаблівай мяжой гістарычна-этнічнага падзела, а з іншага боку этнічным скрыжаваннем – вясковыя гаворкі і выразы па левым і правым берагах значна адрозніваюцца. Лічыцца, што тут калісьці пралягаў падзел крывіцкіх і дрыгавіцкіх уладанняў.



м. Бялынічы, пачатак XX ст.

Адносна нядаўна гістарычнае ўзвышша пачалі называць Іллінскай гарой.

Вядома таксама, што немцы падчас ваенных дзеянняў выкарыстоўвалі гару як плацдарм для ўсталявання буйнакаліբернай гарматы, з якой праз Друць абстрэльвалі наваколлі вёскі Сцёхава.

На гары ўсталяваны асобны помнік удзельнікам баявых дзеянняў Другой сусветнай вайны.

*P. S. Калі падымаўся ў каторы раз на самы верх гэтага пагорка, у галаве навязліва круцілася мелодыя песні польскага гурта "Чэрвонэ гітары" з альбома 1979 года "Порт піратаў" з такімі словамі:*

На дах, на дах свету
Сёмая даль, восьмая даль
Ужо маўчыць рэха, памірае вецер…

На дах, на дах свету
Сам, як сон, сам як сон
Белы перавал – захутайся ў яго…

***Жыхар Бялыніч Юрый Несцярэнка***

## Опасная рыбалка

**Двух тонущих рыбаков спасли в Белыничском районе. Лодка с мужчинами перевернулась недалеко от берега, сообщили в Могилевском областном управлении МЧС.**

По словам собеседников, 8 ноября в 21.25 от очевидцев поступило сообщение о том, что возле д. Отверница в озере тонут люди. Благодаря своевременным действиям, двое рыбаков – местные жители 1954 и 1963 года рождения - были спасены. С предварительным диагнозом «общее переохлаждение, алкогольное опьянение» были госпитализированы в УЗ «Белыничская ЦРБ».

## Белыничские гаишники задержали бананы

2 700 кг бананов без соответствующих документов перевозил в Белыничском районе 36-летний гражданин Азербайджана, сообщили в отделении информации и общественных связей УВД облисполкома. Сотрудники ОГАИ задержали машину «Ивеко Турбо Дейли» 7 ноября на автодороге Минск – Могилев около деревни Каменица. Автомобиль с грузом доставлен в РОВД для разбирательства. Проводится проверка.

14 ноября в г.п. Белыничи возле дома по ул. Пушкина при проведении строительных работ обнаружена 70-мм минометная мина времен ВОВ.

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ПЕРШЫ НАМЕСНІК СТАРШЫНІ АБЛВЫКАНКАМА ЛІЧЫЦЬ, ШТО Ў ШКЛОЎСКІМ РАЁНЕ ЎСЁ ВЕЛЬМІ ДОБРА




*(Заканч. Пачатак на стар. 4)*

нецяляў, цягнецца ўжо 4-ы год, столькі ж "вісіць" узбуджаная крымінальная справа па незаконнаму продажу калійных угнаеннях з тэрыторыі былога саўгаса "Гарадзец" Шклоўскага раена... Узнікае пытане: "Каму гэта выгодна"? Ні па аднаму факту не дадзена канкрэтнага адказу. А асноўная прапанова, - па вылучэнні Мігурскага на пасаду старшыні Шклоўскага райвыканкама, - зусім засталася па-за ўвагай".

Нагадаем, што звярнуцца да Аляксандра Лукашэнкі Рыгор Кастусёў і яго землякі з грамадзянскай ініцыятывы "Шклоўскі магістрат" вырашылі пасля таго, як іх неаднаразовыя ранейшыя звароты і прапановы да кіраўніцтва Шклоўскага райвыканкама не знайшлі ніякага водгука і засталіся без разгляду.

Чальцы "Шклоўскага магістрату" прапанавалі кіраўніку краіны вылучыць на пасаду старшыні Шклоўскага раённага выканаўчага камітэту Пятра Мігурскага, кандыдата эканамічных навук, які стала пражывае ў Шклоўскім раёне. Па іх меркаванню, сучаснае кіраўніцтва Шклоўскага раёна ў вачах людзей ператварылася ў касту недатыкальных з вялікімі асабістымі прыбыткамі і без адказнасці за вынікі сваёй працы.

Кіраўнік "Шклоўскага магістрату" у сваім лісце задаў Аляксандру Лукашэнку рытарычнае пытанне, як магло стацца, што на пасадзе старшыні Шклоўскага раённага Савета дэпутатаў шмат год знаходзіўся чалавек з непагашанай судзімасцю?

Рыгор Кастусёў таксама звяртаў увагу кіраўніка краіны на тое, ўто ўжо больш дзесятка год жыллёва-камунальную сферу раёна калоцяць шэраг карупцыйных скандалаў, звязаных з кіраўнікамі прадпрыемства. Адзін за адным за злоўжыванне службовым становішчам пад следства падпадаюць намеснікі старшыні райвыканкам. Агульны карупцыйны складнік па Шклоўскаму раёну толькі за апошнія 4 гады ў фінансавым плане складае больш 60 мільярдаў рублёў.

Згодна апошніх статыстычных дадзеных, па стане на 1 кастрычніка у Шклоўскім раёне пражывае 28,5 тыс. чалавек. Па стане на 1 студзеня 2009 года ў Шклоўскім раёне пражывала 32,1 тыс. чалавек.

Такія вось "станоўчыя тэндэнцыі ў развіцці дэмаграфічнай сітуацыі" назіраюцца ў Шклоўскім раёне ў апошнія гады…

***Барыс Вырвіч***

## Документы надо...

6 ноября вблизи дома по ул. Мичурина ОГАИ задержана а/м «Фольксваген Шаран» с прицепом под управлением жителя г. Могилева, 1964 г.р., который перевозил 30 мешков сухих строительных смесей РФ без соответствующих документов. Продукции на сумму 2 500 000 руб. изъята. Материал проверки направлен в ИМНС по Белыничскому району.

# ЗМАНАННЕ З КАРУПЦЫЯЙ НА ДЗЯРЖАЎНЫМ УЗРОЎНІ

*(Заканч. Пачатак на стар. 5)*

артыкулы: 427 (службовы падлог), 433 (атрыманне незаконнага ўзнагароджання), 228 (кантрабанда), 290-1 (фінанаванне тэрарыстычнай дзейнасці).

Пасля гэтага ў карупцыйным спісе засталіся наступныя артыкулы:

1.Крадзеж шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі (арт. 210);

2.Легалізацыя матэрыяльных каштоўнасцяў, набытых злачынным шляхам, здзейсненая службовай асобай з выкарыстаннем сваіх службовых паўнамоцтваў (арт.235 ч.2, ч.3);

3.Злоўжыванне ўладай або службовымі паўнамоцтвамі з карыслівай або іншай асабістай зацікаўленасці (арт.424 ч.2, ч.3);

4.Бяздзейнасць службовай асобы з карыслівай або іншай асабістай зацікаўленасці (арт.425 ч.2,ч.3);

5.Перавышэнне ўлады або службовых паўнамоцтваў, здзейсненых з карыслівай або іншай асабістай зацікаўленасці (арт.426 ч.2, ч.3);

6.Незаконы ўдзел у прадпрымальніцкай дзейнасці (арт.429);

7.Атрыманне хабару (арт.430);

8.Дача хабару (арт.431);

9.Пасярэдніцтва ў хабарніцтве (арт .432);

10.Злоўжыванне ўладай, перавышэнне ўлады ці бяздзейнасць улады, здзейсненыя з карыслівай або іншай асабістай зацікаўленасці (арт. 455).

Сярод кіраўніцтва сілавымі ведамствамі вітае ідэя далейшай карэктыроўкі карупцыйнага спісу з чарговым выдаленнем шэрагу артыкулаў. І гэта будзе зноўку прыпаднесена як поспех у змаганні са шматгаловым цмокам - карупцыяй.

***Намеснік старшыні Партыі БНФ Рыгор Кастусёў***

## Анекдот дня

Фраза начальника: – У меня появилась новая перспективная идея! – верный признак того, что у Вас скоро появится тупая и нудная работа.

Тебе уже замуж пора, а ты всё еще со мной встречаешься.

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем выдаўца газеты.

Адрас рэдакцыі: 213173, Бялыніцкі раён, аг-к Вялікая Машчаніца, вул. Савецкая, д. 4. Тэл. 8 (02232) 37-365. Выдавец Вырвіч Барыс Іванавіч. Наклад 299 асобнікаў. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 19.11. 2014 г. у 17-00.